## Є песень вастрожніка.

Ліпы старые шумяць за сьцяною,
Жалосна, глуха шумяць;
Нуднаківаюць яны галавою,
Нудна галіны скрыпяць.
Пышны убор іх—лісты—пазрываны,
Віхр іх развеяў, разнёс;
Белым марозам галіны затканы,
Сьнег іх глыбока занёс.
Плачуць безлістые ліпы старые,
Плачуць на долю сваю:
„Пышна расьлі мы, цьвялі, маладые,
Добра было у гаю!
Вольные птушкі вакруг шчабеталі,
Божые пчолкі гулі;
Вязы таўстые ад буры хавалі,
Дубы нам сеткі плялі.
Белые хмаркі па небі гулялі,
Беглі ў няведамы край;
Частые росы, як срэбра, блішчалі,
Гоманам поўніўся гай...
Нас перанеслі на глебу чужую,
Сьвету, прастору німа;
Ўсе нас забылі, ніхто нас ня чуе,
Чуе нас толькі турма!
Там бы хацелась расьці, красавацца,
Дол дзе капае ральнік,
Родную песьню дзе ціха сьпевае
Сын Беларусі—мужык!...“

Якуб Қолас.

## З усіх старон.

—о—

**Пецербург.** — *Арэшт Лопухіна* 18 января па пастанаўленьні судзебнаго сьледавацеля паліція арэштавала даўнейшаго дырэктара дэпартамэнта паліціі А. А. Лопухіна. Пасьля арэшту, Лопухіна адвязьлі ў турму. Вінаваціць Лопухіна ў тым, што ён данёс партіі соціалістоў-рэволюціонэроў аб штучках вядомаго ў Расеі закутніка (сышчыка) *Азэва*. Гэты Азэв быў на службе ў паліціі і ў тым самым часе укруціўся ў партію „Соціалістоў-Рэволюціонэроў“. Іон выдаваў сябе за шчыраго рэволюціонэра і ў кароткім часі здабыў послух памеж členоў партіі. Кажуць, што Азэв сам арганізаваў розные „пакушэньня“, кіраваў імі і пасьля данасіў аб гэтым паліціі. Партія, дазнаўшыся аб гэтых штучках яго, як кажуць, ад Лопухіна, пастанавіла звясьці Азэва са сьвету, але ён уцёк. Лопухін—важны чыноўнік. Іон прыходзіцца крэўным Столыпіна, жонка яго—сестра родная даўнейшаго таварыша міністра ўнутрэных дзел, князя Урусова. „*Р.*“

— 20 января Сэнат пачаў разбіраць дзела барона Фрэдэрыкса, быўшаго губэрнатара Ніжэгародскай губэрні. Вінаваціць яго ў тым, што у галодны год, калі правіцельства дало яму грошы на дастаўку хлеба ў галодные вёскі, ён паручыў гэта дзела *Лідвалю* на варунках дужа нявыгадных для казны і мужыкоў. За тое-ж палучыў ён ад Лідваля адзін раз 500 рублёў, а другі раз 10 тысяч рублёў. „*Р.*“

**Кіеў.** С кіеўскай духоўнай сэмінарыі выдалілі 37 вучнёў—за „*неблагоповеденіе*“. Кажуць, што аткрылася іхняя перапіска з вучнямі другіх сэмінарый, у якой відаць, што яны ўсе стараліся перад Гасударств. Думай, каб тая вярнула адабранае недаўна ад сэмінарыстаў права наступленьня ў унівэрсытэты. („О. Н.“)

ніць пра вучылішчэ, (бо яму будзе льгота). Ну добра, здалі ў салдаты! атслужыў службу, там і астаўся! Пабыў год, другі, ці болей,—чуе бацька, што сын ужо у начальнікі нейкіе папаў; не гэткім як стражнік, не гэткім як пtriставў, але неякім там над усімі старшым... Сперша быў пры конях у палацы, а цяпер вун куды папаў—у начальнікі.

Але якая-ж з гэтага карысць бацьку?

Такі сын—начальнік—сароміцца прыехаць ў вёску праведаць бацьку; дый калі бацька да сына нрыедзе,—той яго ешчэ больш чураецца: ў кухню хіба толькі пусьце. Вось бацьку—як абухом па лбе. Едзе ён да дому і думае: дось гэтай навукі! меншых вувучыць ня буду: карысць адна, але хоць сароміцца не будуць, што я іх бацька. А чаму гэтак робіцца, дык пра гэта можна і многа чаго напісаць, але гэта можа другім разам, каротка казаўшы, вось якая прычына. Як мяне, напрыклад, самаго учылі, дык у мяне быў такі дух, што каб нічого роднаго-беларускаго не шанаваць.

———

**Рэдакція** дастала смутную вядомосць, што гэтымі днямі Мікалай Аношка памёр.



✯ ✯ ✯

У бярлозе ты радзіўся,
На мякіне гадаваўся,
За скарынку хлеба біўся,
За капейку мардаваўся.

І жывеш ты, як скаціна,
Ўсякіх злыдняў корміш многа.
Ад пакуты гнецца сьпіна,
І не бачыш ты нічога.
О, каб вочы прасьвятлелі,
Каб на вушы быў лягчэйшы,
За быдлё-б цябе ня мелі,
Шоў бы сьцежкай ты прасьцейшай!

**Якуб Колас.**

*в. Мікалаеушчына.*



# З усіх старон.

———

**Пецербург.** У студэнцкай сталовай было беларускае ігрышчэ-вечэрынка. Хлопцы-студэнты чыталі па нашаму вершы з „Дудкі“ і „Жалейкі“, а паненка К. спевала на нотах Гречанінова „песьню над калыскай“ і іншые песьні. Пасьля была гульня да 5-ай гадзіны раніцы. Усе былі здаволены і прасілі скарэй ізноў зрабіць такое ігрышчэ. *Чорны.*

У **Пецербургу** згарэла вялізная фабрыка абоеў. Страты на 1 мільён руб.

= Забаставалі кондуктары і машыністы гарадзкіх электрычэскіх трамваеў (конак), усяго каля 4 тысяч працоўнікоў. Яны хацелі каб прыбавілі пэнсіі і быў другі нарад змен. Першы дзень трамваі не хадзілі; потым Дума пачала ставіць слесарэй і другіх людзей замест машыністоў і кандуктароў. Забастоўка ешчэ ідзець.

**Кіев.** Начальніка сыскной (тайнай) паліціі Асланова і сышчыка Зелло за хабары падлогі, хаўрусы са зладзеямі і іншые шэльмоўства аддалі пад суд.

**Ковно**. Упраўляючы купца Перэвознаго заявіў прыставу 1 стана Ковенск. пав., што каля в. *Сэргяны* крадуць з рэкі Віліі лесны тавар яго гаспадара. Прыстаў паслаў урадніка Глечко і стражніка Бессекерскаго ператрэсьці тых, на каторых меў падазрэніе упраўляючы. Паліцэйскіе прыехалі з упраўляюшчым у Сэргяны, добра заліўшы вочы, і сталі чэпляцца да людзей, зусім не вінаватых у гэтай справе, лаялі іх апошнімі словамі, ды стражнік нават крычаў, што пусьціць у ход аружжэ. Ковенскі губэрнатар за гэту справу аштрафаваў упраўляючага на 300 руб.; урадніка прыказаў пасадзіць на 7 дзён на адседку, стражніка так сама, дый зусім прагнаць са службы.

М. **Жагоры**. Ковенск. губ. Шавельск. пав. Крэсцьянск, банк купіў маёнтак *Мартынішкі* ад генэрала Ільшна і распрадаў усю зямлю стараверам ад 125—190 р. за дзесяціну. У самым доме зроблена народная школа з аддзелам, дзе вучаць сельскай гаспадаркі. Пры школе 7 дзесяцін пробнаго поля.

С. **Юзэфово**. Ковенск. губэрні Тэльш. пав. На зямлі, купленай крэсцянскім банкам, разсялілі 46 сямей стараравераў; апроч таго на кожную сямью далі падмогі па 200 руб., па 2 кані, 2 каровы, 4 авечкі, 3 сьвіньні, 2 калёс і 1 сані. Зямлі ешчэ асталося на 104 сямей.

## Родные абразы.

Сохну марне я ў вастрозі,
Дарма трачу сілы;
Рвецца дух мой на свабоду
Із турмы—магілы...

Шкода хаткі мне старэнькай
З латанай стрэхою,
Што над Нёмнам пахілілась
Горкай сіратою;

Шкода мне зялёнай нівы,
Што шуміць у полі,
То́го дуба, што над рэчкай
Карэніцца у долі;

Шкода мне гаёў раздольных
І лугоў прастора,
Дзе пад ветрам хваля ходзіць
Травяного мора;

Шкода сьветлай ручаінкі
Ў берэгах пешчаных,
Што, як срэбро, быстра льецца
Прамеж гор, курганоў;

Шкода вёсак запусьцелых,
Дзе мужык гаруе,
Дзе зімою вецер вее,
Кудаса шнуруе...

Гэта—образы краіны,
Беларусі роднай...
Край ты, край мой! міл ты сэрцу,
Цёмны край, галодны!

Ды ня век жэ тут згарую:
Дачэкаю волі
І пачую ў родным краю
Песьні лепшэй долі!

**Якуб Колас.**

*в. Мікалаеўшчына.*

## З усіх старон.

**Пецербург**. Разарвало і затапіло падводную лодку „Дракон“. Спамеж каманды пакалечыло 42 чэл.

= Міністэрства ўнутрэных спраў аб'явіло губэрнатаром, каб усе справы самавольнай парубкі ў лесах, што прыналежаць крэсць-

мых беларусоў, чуў думкі аб злученьні і, думаю, што тао-ж чуў кожны серод сваіх знаёмых. Інакш ня можэ і быць, бо думку аб еднаньні выклікало само жыцьцё.

Наступае восень. Скора зьедуцца ў Кіев грамады студэнтоў, меж каторымі і нашых беларусоў будзе немалая жменя. Нехай жэ яны трымаюцца ўсе разам; нехай шукаючы сьвету для сябе, не забудуць аб сваей роднай цёмнай старонцы—Бацькоўшчыне Беларусі і, чым хто дуж, памагаюць свайму народу выбівацца с цемнаты адвечнай. Нехай непройдуць без карысьці годы вучэньня для адрадзеньня беларускаго народу!

„І чужому научайтесь,
„І сваго не цурайтесь —
„Бо хто матер забувое,
„Того Бог караэ!..“

*Кіев.* С. Полуян.

# РЖАНЫ КОЛАС.

На саломцэ тонкой
У траве глухой
Сьпее—дасьпевае
Колас сіратой.
Ці то птушка Божа
Кінула зярно,
Ці то заняслося
Бурэю яно,
Ці з дзіравай торбы
Конік чый згубіў,
На чужую скібу
Зерне пасадзіў?
Небо яго знае,
Як сюды папаў,
Хто ад роднай нівы
Зерне адарваў...
Сушыць яго сонцэ,
Клоніць вецерок;
Ные сірацінка,
Плачэ каласок.

Плачэ, што нема с кім
Думку раздзяліць,
Нудную галоўку
Ціхо прыхіліць
Да другой галоўкі,
Да другіх грудзей,
Без канца шэптацца
Ў цішыне начэй.
Апусьціўшы нізка
Тонкі паясок,
Ные сірацінка,
Плачэ каласок;
Плачэ што дарэмна
Вяне у глушы,
Што нігдзе ня згледзіш
Роднае душы;
Што яго зерняткі
Птушкі падзеўбуць,
Белую саломку
Ветры разнясуць.

І, падняўшы ў гору
Стройны валасок,
Ные сіраціна,
Плачэ каласок.

Якуб Колас.

*Микалаеушчына.*

кая самая беднасць мужыкоў і народу, як і у нас. Але тагдышняя пруская бюрократція зразумела, што толькі шырокае самоупраўленьне вывязе край на сухое мейсца. Немецкі патрыот і вялікі рэформатар, барон Штэйн, саставіў закон аб гарадзкім самоупраўленьні „*Stadtordnung*“. (19 ноября 1808 г.).

На гэты ужо спосаб былі састаўлены і другіе законы аб самоупраўленьні, калі ў Немеччыне завялі конституцію ў 1848 году. Дзеля гэтаго немцы цяпер такі багаты і культурны народ. І наш край маець у сваей гісторыі земельные рэформы.—350 гадоў таму ў 1560-ых гадах зрабілі у нас вялікую зямельную рэформу, выдалі „валочную уставу“. Усіх мужыкоў, каторые ешчэ жылі асобнымі дворышчамі на „столовых“ (Князя Літоўскаго) землях, перэсялі ў вёскі „на валокі„; зрабілі гэта перэсяленьне і новую нарэзку, на мільёнах дзесяцін зямлі. Не жалеючы дабаўлялі да „валок“ казённай зямлі. Пры гэтым састаўлялі інвэнтары, значыць апісывалі і считалі сколька ў мужыкоў зямлі, скаціны, дабра, падаткоў, каб пазнаць якое багацьце у селян.

Гэта вялікая рэформа была зроблена так добра і мудра, што мы можэм толькі дзівіцца. Гісторыю гэтай рэформы апісывае праф. Довнар-Запольскій. А у Віленскім архіве, старых актовых кніг, ляжыць шмат дакумэнтоў аб гэтай мала вядомай рэформе старасветчыны нашай. Гэта разсяленьне на волакі было тагды, калі паншчыны ня было ешчэ, а „мернікі“ мерылі зямлю лыковымі „шнурамі“.

**А. У.**



# МАЦІ.

Непрыветна цераз вокна
Ночка пазірае.
Ціха ў хаце—ўся сямейка.
Спіць ды спачывае,
Натрудзіўшы добра рукі,
Натаміўшы плечы.
Толькі матка з вераценцэм
Прытулілась к печы,
І прадзе, прадзе кудзельку.
Скачэ вераценэ,
І за ей густые цені
Бегаюць па сьценцэ.

* * *

На камінку корч пылае,
Злотам іекры скачуць.
За ваконцэм вецер ходзіць,
Глуха вербы плачуць;
Зябнуць вербы на марозі,
Прытуліўшысь к стрэсі;
Сьнегам вецер сыпле ў дзьверы;
Ходзіць шум па лесі...
І пад гэты шум трывожны
Думае старая,
А ў след думкам неспакойна
Вецер падпевае.

* * *

Усё прачнулась прэд вачыма
Беднае кабеты:
Маладые дні дзяціны
Дзявочые леты,

Радасць жыцьця і нягоды,
Сваркі, трасяніны—
Ўсё, чым жыцьцё спатыкае
Кепскую часіну,
Ўсё прыпомнілась старэнькай.
Горка беднай стала—
Галаву на грудзь схіліла,
Прасьці перэстала.
* * *
Муж, нябошчык, ўсплыў на думку—
Рана сьмерць скасіла!
Дробных дзетак ён пакінуў—
Без пары магіла.
Жыў ён бедна. Спадзеваўся
Свой прыдбаць куточэк:
Хату вывясьці, земелькі
Прыкупіць шматочэк.
Бо агоркнуў хлеб батрацкі,
Жыцьцё пад'яремна...
Ды ня выйшоў с пад няволі,
Біўся век дарэмна.
* * *
Гасне корчык на камінку
Пацямнела ў хаце.
Поўнач пеўні пракрычалі,
Ды ня сьпіць ўсё маці.
Цягне нітку. Верацензэ,
З рук упаўшы, грукне,
Ды ня сьмела як убогі
Вецер ў дзьверы стукне.
Думкі, думку падганяюць,
Не даюць пакою:
Ўсё летаюць над кабетай
Нуднай чэрадою.
* * *
Уздыхнула цяжка матка.
Аб сынку гадае,
Што ў турме, у паняверцы
Кару адбывае.
І за што? У толк ня возьме
Бедная кабета,
Ні законоў гэтых мудрых,
Ні парадкоў сьвета...
* * *
Вецер вые за вугламі,
Ў коміне галасіць.
Куды толькі думка тая
Матку не заносіць?
Зябнуць вербы на марозі.
Глуха лес гамоніць.
Думка думку выклікае,
Думка думку гоніць.

**Якуб Колас.**

# Нацыянальнае адрадзэньне чувашоў.

Ў тым краю, гдзе цячэ рэка Волга—ў губэрнях Ніжэгародзкай, Сімбірскай, Самарскай і Ўфімскай жыве невялікі народ—чувашы. Ня многа гэтаго народу, з мільён набярэцца іх усіх і жывуць бедна, бо неасьвечэны яны. І можэ-б доўга гібнулі так яны ў цемнаце, калі-б ня лепшые сыны іх краю, што засьвяцілі і для іх сьвет веданьня—навукі ў роднай для іх чувацкай мове.

Мова чувацкая падобная да тюркскай, блізкая да старой палавецкай (палаўцы—народ што некалі, гадоў таму с тысячу, нападаў на рускіе землі). На расейскую мову яна саўсім не падобна і разумець расейца чувашу цяжка. Вось і ня дзіва, што ня мог чуваш зрабіцца больш асьвечоным, прыдбаць сабе больш сьвету навукай, бо мала і саўсім не разумеюць яны расейскай навукі. Вё-

# ГУСІ.

Зоры далёкіе, зоры бліскучые
Ціха гарацъ над зямлёй;
Крыкі знаёмые, крыкі пявучые
Льюцца вечэрняй парой.
С поўначы-холада, сівера бурнаго.
Гусі на поўдзень ляцяць,
З неба далёкаго стэпу лазурнаго
Нудна прашчаньне крычаць.
Дзікіе гусанькі, птушэчкі вольные,
Весьнікі скорай зімы.
Хочэцца з вамі мне ў стэпы прасторные
К сьвету і сонцу ад цьмы.
Толькі ж падрэзаны скрыдла свабодные
Моцна пільнуюць мяне—
Дзьверы акутые, сцены халодные,
Гарты жалеза ў вакне.

**Якуб Колас.**

# Наш гандэль з заграніцай.

II.

Ў № 39 „Н. Н.“ ўжо пісалося, што Расея вывозіць розных тавароў, а найбольш хлеба, на 999 мільёноў 387 тысячоў рублёў. Цяпер цікава прыглядзецца з якімі гасударствамі мае яна гандлёвые інтэрэсы і на якую лічбу грошы.

Расея вывозіць розных тавароў:

| | | |
|---|---|---|
| Ў Немеччыну на . . . . | 284 | мільёноў рублёў. |
| „ Англію . . . . . . | 225 | „ „ |
| „ Голландію . . . . . | 108 | „ „ |
| „ Францію . . . . . | 74 | „ „ |
| „ Італію . . . . . . | 52 | „ „ |
| „ Фінляндію . . . . . | 47 | „ „ |
| „ Аўстро-Вэнгрыю . . . | 45 | „ „ |
| „ Бэльгію . . . . . . | 41 | „ „ |
| „ Данію . . . . . . | 30 | „ „ |
| „ Румынію . . . . . | 17 | „ „ |
| „ Турцію . . . . . . | 15 | „ „ |
| „ Швэцію . . . . . . | 10 | „ „ |
| „ Гішпанію . . . . . | 8 | „ „ |
| „ Норвэгію . . . . . | 6 | „ „ |